ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 8 (2587)
ПЯТНІЦА
25
лютага 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## «ЛІМу» — 40 год

### У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:





Чыё сэрца не ўстрапянецца ад першых жа гукаў імклівай, звонкай «Лявоніхі»! Мільгаюць вясёлыя дзявочыя твары, пераліваюцца рознакаляровыя беларускія ўборы... Дзяржаўны ансамбль танца БССР выступае з новай праграмай. Нататку пра яе чытайце на стар. 5.

## ПАСТАНОВА ЦК КПСС

# АБ ПАДРЫХТОЎЦЫ ДА 50-ГОДДЗЯ ЎТВАРЭННЯ САЮЗА САВЕЦКІХ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

30 СНЕЖНЯ 1972 года рабочы клас, калгаснае сялянства, працоўная інтэлігенцыя, увесь савецкі народ будуць адзначаць 50-годдзе ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

**50-годдзе ўтварэння СССР — вялікае свята нашага шматнацыянальнага народа.**

Падрыхтоўка да гэтага юбілею праходзіць пад уздзеяннем ідэй і рашэнняў XXIV з'езда КПСС. Вялікі працоўны і палітычны ўздым, з якім працоўныя выконваюць вызначаныя з'ездам планы, з новай сілай дэманструе маральна-палітычнае адзінства нашага грамадства, маналітную згуртаванасць партыі і народа, непарушную дружбу і брацкае супрацоўніцтва ўсіх народаў вялікага Савецкага Саюза. Ідэі з'езда садзейнічаюць далейшай кансалідацыі сусветнай сацыялістычнай садружнасці, камуністычнага і рабочага руху, робяць плённы ўплыў на ўсю міжнародную абстаноўку, на ўмацаванне міру і бяспекі народаў.

Перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі з'явілася галоўнай палітычнай умовай ажыццяўлення карэнных сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў, ажыццяўлення ленінскай праграмы па нацыянальным пытанні, узнікнення савецкіх рэспублік. Агульныя інтарэсы працоўных розных нацыянальнасцей, якія сталі на шлях будаўніцтва новага грамадства, іх імкненне да аб'яднання намаганняў і брацкага супрацоўніцтва знайшлі сваё практычнае ўвасабленне ў стварэнні ў снежні 1922 года адзінай шматнацыянальнай дзяржавы — Саюза ССР.

**Утварэнне СССР на сваёй палітычнай значнасці і сацыяльна-эканамічных выніках займае выдатнае месца ў гісторыі Савецкай дзяржавы.** Гэта гістарычная падзея — пераканаўчая перамога ідэй пралетарскага інтэрнацыяналізму, плённы вынік ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі. Утварэнне Савецкага Саюза з'явілася адным з рашаючых фактараў, якія забяспечылі спрыяльныя ўмовы для перабудовы грамадства на сацыялістычных асновах, уздыму эканомікі і культуры ўсіх савецкіх рэспублік, умацавання абароннай магутнасці і міжнародных пазіцый шматнацыянальнай дзяржавы працоўных.

Савецкі Саюз увасабляе ў сабе небывалыя раней у гісторыі адносіны адзінства і дружбы свабодных народаў. Гэта дружба — адна з найвялікшых заваёў сацыялізма, магутная рухаючая сіла савецкага грамадства, невычэрпная крыніца творчай дзейнасці працоўных усіх нацыянальнасцей СССР у імя самай высакароднай мэты — пабудовы камунізма.

**Найвялікшая заслуга ў стварэнні шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы належыць правадыру партыі і народа Уладзіміру Ільічу Леніну.** Творча развіваючы ідэі К. Маркса і Ф. Энгельса, ён стварыў стройнае вучэнне па нацыянальным пытанні, распрацаваў навуковыя прынцыпы нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі. Марксізм-ленінізм раскрыў месца і ролю нацыянальнага пытання ў рэвалюцыйным пераўтварэнні свету, паказаў яго падпарадкаванасць інтарэсам класавай барацьбы пралетарыяту, інтарэсам сацыялізма. Неад'емнай састаўной часткай ленінскай нацыянальнай праграмы з'явілася патрабаванне пабудовы партыйных і іншых арганізацый пралетарыяту па інтэрнацыянальнай прыкмеце. У тэорыі і на практыцы была даказана жыццёвая неабходнасць яднання пралетарыяў усіх нацыянальнасцей у барацьбе супраць капіталістычнага рабства, за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Народы нашай краіны стагоддзі сумесна змагаліся супраць царызму, сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечання. Гэта вызваленчая, рэвалюцыйная барацьба набыла яшчэ большы размах, свядомы, мэтанакіраваны і арганізаваны характар з зараджэннем рабочага руху і асабліва са стварэннем У. І. Леніным бальшавіцкай партыі. Магутным фактарам мабілізацыі і арганізацыі народаў Расіі на барацьбу супраць самадзяржаўя і капіталізму сталі ідэі марксізма-ленінізма, прынцыпы пралетарскага інтэрнацыяналізму. Яны ўзбагацілі скарбніцу тэорыі і практычнага вопыту міжнароднага камуністычнага і рабочага руху.

Пад кіраўніцтвам партыі ў класавых бітвах зараджалася, мацнела і загартоўвалася адзінства і баявое таварыства ўсерасійскага пралетарыяту. Рабочыя Петраграда і Масквы, Кіева і Адэсы, Іванава-Вазнясенска і Ніжняга Ноўгарада, Харкава і Екацерынаслава, Баку і Тыфліса, Мінска і Вільна, Рыгі і Рэвеля, Казані і Растова-на-Доне, Данбаса і Урала, многіх іншых прамысловых цэнтраў выступалі як магутная інтэрнацыянальная рэвалюцыйная сіла.

Свядомыя пралетарыі пастаянна дабіваліся цяснейшага згуртавання рабочых, беднейшага сялянства ў барацьбе з рэакцыяй, адмятаючы прэч любыя формы буржуазна-нацыяналістычнай ідэалогіі, ці гэта быў вялікадзяржаўны шавінізм або мясцовы нацыяналізм, нацыянальная фанабэрыстасць або нацыянальны нігілізм, антысемітызм або сіянізм. Старому свету класавага і нацыянальнага прыгнёту, нацыянальнай варожасці і адасаблення Камуністычная партыя, рабочы клас проціпаставілі новы свет адзінства працоўных, у якім няма месца для якога б там ні было прыгнёту чалавека чалавекам, адной нацыі другой, для якіх-небудзь нацыянальных прывілей.

Ленінская партыя, рабочы клас рашуча адстайвалі раўнапраўе ўсіх нацый і народнасцей, права нацый на самавызначэнне аж да стварэння самастойных дзяржаў у імя ўсталявання цеснага добраахвотнага саюза раўнапраўных народаў. «Мы патрабуем свабоды самавызначэння, г. зн. незалежнасці, г. зн. свабоды аддзялення прыгнечаных нацый не таму, што мы марылі аб гаспадарчым раздрабненні або аб ідэале дробных дзяржаў, — пісаў Ленін незадоўга да Кастрычніцкай рэвалюцыі, — а, наадварот, таму, што мы хочам буйных дзяржаў і збліжэння, нават зліцця нацый, але на сапраўды дэмакратычнай, сапраўды інтэрнацыяналісцкай базе, **немагчымай** без свабоды аддзялення» (Поўны збор твораў, т. 27, стар. 68).

**Вопыт утварэння шматнацыянальнай дзяржавы новага тыпу паказвае, што толькі сацыялістычная рэвалюцыя забяспечвае цеснае аб'яднанне ўсіх народных сіл на чале з рабочым класам з мэтай ліквідацыі сістэмы капіталістычнай эксплуатацыі і разам з ёю — сістэмы нацыянальнага прыгнечання.** Рашаючай палітычнай перадумовай выканання гэтай гістарычнай задачы, фарміравання сацыялістычнага спосабу жыцця нацый і народнасцей краіны з'явілася ўстанаўленне дыктатуры пралетарыяту, а галоўнай эканамічнай перадумовай — усталяванне грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці.

Выдатнае значэнне для з'яднання народаў у шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржаве мела стварэнне ў ходзе рэвалюцыйных выступленняў мас такой формы ўлады працоўных, як Саветы. Дзякуючы іх блізкасці і даступнасці ўсім слаям працоўнага насельніцтва Саветы далі магчымасць аб'яднаць вакол рабочага класа шматмільённыя масы сялянства, усіх працоўных розных нацыянальнасцей. Сама інтэрнацыянальная прырода Саветаў прымушала працоўныя масы рэспублік стварыць адзіную дзяржаву. Вопыт дзейнасці Саветаў паказаў, што рабочыя і сяляне могуць паспяхова кіраваць дзяржавай на асновах самага шырокага і паслядоўнага дэмакратызму, поўнай нацыянальнай роўнасці.

У нашай шматнацыянальнай краіне нацыянальнае пытанне выступала як адно з карэнных пытанняў будаўніцтва сацыялістычнага грамадства. Ад яго правільнага вырашэння ў многім залежаў лёс новага ладу. **Толькі Камуністычная партыя, якая выражае надзённыя інтарэсы рабочага класа, усіх працоўных і якая праводзіць ленінскую нацыянальную палітыку, магла з'яднаць усе нацыі і народнасці ў адзінае інтэрнацыянальнае брацтва і накіраваць іх намаганні на стварэнне новага грамадства.** Яна з гонарам выканала гэту гістарычную задачу таму, што няўхільна кіравалася тэорыяй марксізма-ленінізма.

У прынятых пасля перамогі Кастрычніка Дэкларацыі правоў народаў Расіі, Дэкларацыі правоў працоўнага і эксплуатуемага народа, Канстытуцыях РСФСР і іншых савецкіх рэспублік абвешчаны асноўныя прынцыпы палітычнага, эканамічнага і культурнага будаўніцтва ў эпоху дыктатуры пралетарыяту. Усім савецкім рэспублікам, створаным у ходзе рэвалюцыі народамі былой царскай Расіі, было ўласціва натуральнае імкненне да федэратыўнага аб'яднання. Стаўшы на шлях пабудовы сацыялізма, яны ўсё цясней згуртоўваліся вакол Расійскай Сацыялістычнай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікі, якая з'явілася своеасаблівым правобразам Саюза ССР. На працягу першага пяцігоддзя Савецкай улады быў набыты багаты вопыт развіцця новых, сацыялістычных узаемаадносін і супрацоўніцтва паміж нацыямі і народнасцямі.

**Утварэнне шматнацыянальнай дзяржавы рабочых і сялян — працяг справы Вялікага Кастрычніка, рэвалюцыйных пераўтварэнняў у маштабах усёй краіны. Яно дыктавалася аб'ектыўным ходам гістарычнага развіцця.** На аснове глыбокага навуковага аналізу У. І. Ленін паказаў, што:

без самага цеснага саюза савецкіх рэспублік немагчыма адстаяць іх існаванне перад наяўнасцю сусветнага імперыялізму; захаванне і ўмацаванне Саюза Сацыялістычных Рэспублік — гэта мера, якая «нам патрэбна, як патрэбна сусветнаму камуністычнаму пралетарыяту для барацьбы з сусветнай буржуазіяй і для абароны ад яе інтрыг» (т. 45, стр. 360);

без саюза савецкіх рэспублік, іх цеснага эканамічнага супрацоўніцтва неажыццявіма аднаўленне разбураных імперыялізмам прадукцыйных сіл, стварэнне адзінай, рэгулюемай па агульным плане, сацыялістычнай гаспадаркі, забеспячэнне рацыянальнага грамадскага падзелу працы і эфектыўнае выкарыстанне прыродных багаццяў на карысць усіх народаў краіны;

без цеснага саюза савецкіх рэспублік немагчыма забяспечыць няўхільны рост дабрабыту працоўных, усебаковае развіццё і росквіт культуры ўсіх нацый і народнасцей краіны.

Усе гэтыя акалічнасці ўладарна патрабавалі аб'яднання савецкіх рэспублік у адну саюзную дзяржаву, здольную забяспечыць і знешнюю бяспеку, і ўнутраны гаспадарчы вялікі поспех, і свабоду нацыянальнага развіцця народаў.

У. І. Ленін усебакова распрацаваў пытанне аб нацыянальна-дзяржаўных адносінах ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту. Ён непасрэдна накіроўваў будаўніцтва сацыялістычнай дзяржаўнасці, аказваў вялікую дапамогу камуністам усіх рэспублік.

**Утварэнне шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы — выдатны вынік рэвалюцыйнай творчасці ўсіх савецкіх народаў на чале з рабочым класам пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі.** Цяга працоўных савецкіх рэспублік да аб'яднання ў адной дзяржаве мацнела ў жорсткіх сутычках з сіламі знешняй і ўнутранай контррэвалюцыі. Ваенна-палітычны саюз, які склаўся ў ходзе грамадзянскай вайны, самая цесная каардынацыя знешнепалітычнай дзейнасці, сумесныя намаганні па аднаўленні народнай гаспадаркі, эканамічным развіцці і ўмацаванні абараназдольнасці, натуральна садзейнічалі пераходу да аб'яднання раўнапраўных народаў у адну сацыялістычную сям'ю.

Гэты прагрэсіўны гістарычны працэс не быў лёгкі і просты. Давялося пераадольваць немалыя цяжкасці, звязаныя з эканамічнай і культурнай адсталасцю, змагацца супраць спроб контррэвалюцыі выкарыстаць у сваіх мэтах спадчыну ранейшай нацыянальнай варожасці, буржуазны нацыяналізм і вялікадзяржаўны шавінізм, супраціўленне нацыянал-ухілістаў унутры партыі. Галоўным выразнікам тэндэнцыі да аб'яднання, вядучай сілай гэтага працэсу, як і сацыялістычнай рэвалюцыі, выступаў рабочы клас. Пралетарыі пад кіраўніцтвам бальшавіцкіх арганізацый уносілі ў масы працоўных дух класавай, інтэрнацыянальнай салідарнасці, згуртоўвалі іх на агульнай палітычнай платформе Савецкай улады і барацьбы за сацыялізм.

**Утварэнне СССР з'явілася вынікам тэарэтычнай і палітычнай работы партыі, рознабаковага вопыту савецкіх народаў і адлюстроўвала іх спадзяванні.** Ленінская ідэя стварэння Саюза ССР была горача падтрымана рабочым класам, працоўным сялянствам, перадавой інтэлігенцыяй і ўвасобілася ў сапраўды ўсенародны аб'яднальны рух. Пытанне аб аб'яднанні савецкіх рэспублік шырока абмяркоўвалася на губернскіх, павятовых і валасных з'ездах Саветаў, на шматлюдных мітынгах і сходах. Масы працоўных усіх нацыянальнасцей выказалі непахісную волю і рашучасць згуртаваць свае сілы і рэсурсы для дасягнення агульнай мэты — пабудовы сацыялізма і камунізма.

Рашэнні аб аб'яднанні ў саюз былі прыняты з'ездамі Саветаў усіх рэспублік. 30 снежня 1922 года I Усесаюзны з'езд Саветаў аднадушна прыняў Дэкларацыю аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. У ёй была выказана цвёрдая ўпэўненасць, што новая саюзная дзяржава з'явіцца дастойным увянчаннем закладзеных яшчэ ў кастрычніку 1917 года асноў мірнага сумеснага жыцця і брацкага супрацоўніцтва народаў.

Добраахвотнае ўступленне савецкіх рэспублік у Саюз ССР з'явілася яркім выражэннем іх сацыялістычнага суверэнітэту і забяспечыла яго надзейныя гарантыі. Дагавор аб утварэнні СССР, аб'яднанні ў адну саюзную дзяржаву заключылі Расійская Сацыялістычная Федэратыўная Савецкая Рэспубліка, Украінская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка, Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка, Закаўказская Сацыялістычная Федэратыўная Савецкая Рэспубліка (у складзе Азербайджана, Арменіі, Грузіі).

Ленінскія прынцыпы добраахвотнага дзяржаўнага саюза раўнапраўных народаў былі закладзены ў аснову першай Канстытуцыі СССР, канчаткова зацверджанай II Усесаюзным з'ездам Саветаў 31 студзеня 1924 года.

У працэсе пабудовы сацыялізма паступова складваліся спрыяльныя сацыяльна-эканамічныя ўмовы для працягу і ўдасканалення нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва Саюза ССР. У 1924 годзе створаны Туркменская і Узбекская, а ў 1929 годзе — Таджыкская Савецкія Сацыялістычныя Рэспублікі. У 1936 годзе Казахская і Кіргізская Аўтаномныя Рэспублікі пераўтвораны ў саюзныя. У гэтым жа годзе Азербайджанская, Армянская і Грузінская Савецкія Рэспублікі, якія раней утварылі Закаўказскую СФСР, непасрэдна ўвайшлі ў склад СССР. Палітычнае развіццё адроджаных рэвалюцыяй нацый знайшло сваё адлюстраванне таксама ва ўтварэнні аўтаномных рэспублік, аўтаномных абласцей і нацыянальных акруг.

Канстытуцыя СССР, прынятая 5 снежня 1936 года, заканадаўча замацавала перамогу сацыялізма, асновы сацыяльнай і дзяржаўнай арганізацыі сацыялістычнага грамадства, яднання савецкіх народаў.

Знамянальнымі падзеямі ў жыцці нашай шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы з'явіліся ўз'яднанне ўкраінскага народа ў 1939—1945 гадах, уз'яднанне беларускага народа ў 1939 годзе. У 1940 годзе працоўныя Латвіі, Літвы, Эстоніі ў ходзе рэвалюцыйнай барацьбы аднавілі савецкую дзяржаўнасць; на аснове свабоднага волевыяўлення народаў Латвійская, Літоўская і Эстонская Савецкія Рэспублікі ўвайшлі ў Саюз ССР. У выніку ўз'яднання малдаўскага народа Малдаўская АССР была пераўтворана ў саюзную рэспубліку.

# АБ ПАДРЫХТОЎЦЫ ДА 50-ГОДДЗЯ ЎТВАРЭННЯ САЮЗА САВЕЦКІХ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

даце, на прадпрыемствах, будоўлях, у калгасах і саўгасах, установах, навучальных установах, воінскіх часцях і падраздзяленнях.

У ходзе падрыхтоўкі да маючага адбыцца юбілею звярнуць увагу на растлумачэнне:

прынцыпаў марксісцка-ленінскай тэорыі і праграмных палажэнняў Камуністычнай партыі па нацыянальным пытанні, крыніц сілы, і жыццёвасці ленінскай нацыянальнай палітыкі;

сусветна-гістарычнага значэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік як жывога ўвасаблення прынцыпаў пралетарскага інтэрнацыяналізму;

значэння ўтварэння Савецкага Саюза для пабудовы сацыялізма і камунізма ў нашай краіне, для ўмацавання абароны і забеспячэння свабоды і незалежнасці народаў СССР, для ўмацавання пазіцый сацыялізма на міжнароднай арэне, развіцця сусветнага рэвалюцыйнага працэсу;

вынікаў гіганцкай дзейнасці Савецкай дзяржавы па ўздыме эканомікі і культуры ўсіх нацый і народнасцей, якія насяляюць СССР, па фарміраванні новых міжнацыянальных адносін, заснаваных на дружбе, узаемапавазе і свядомасці мацнеючага адзінства;

ленінскага курсу XXIV з'езда партыі, які вызначыў перспектывы эканамічнага і сацыяльна-палітычнага развіцця краіны, павышэння дабрабыту савецкага народа, росквіту і паступовага збліжэння нацый і народнасцей СССР, развіцця і ўмацавання агульнанароднай сацыялістычнай дзяржаўнасці і дэмакратыі.

Адобрыць ініцыятыву перадавых калектываў прадпрыемстваў, будоўляў, калгасаў, саўгасаў па шырокім разгортванні сацыялістычнага спаборніцтва за дастойную сустрэчу юбілею Саюза ССР і датэрміновае выкананне плана другога года дзевятай пяцігодкі.

Актыўна выкарыстаць падрыхтоўку да 50-годдзя Савецкага Саюза для далейшага паляпшэння інтэрнацыянальнага выхавання працоўных. Выхаванне савецкіх людзей, моладзі ў духу пралетарскага інтэрнацыяналізму і бязмежнай адданасці вялікай сацыялістычнай Радзіме — Саюзу ССР, клопаты аб яго працвітанні — важны бок фарміравання камуністычнай грамадскай свядомасці. Інтэрнацыяналісцкае выхаванне выступае як адна з цэнтральных задач усіх партыйных, савецкіх, гаспадарчых, культурных і грамадскіх арганізацый, усіх нашых кадраў у цэнтры і на месцы, у кожнай рэспубліцы, краі, вобласці, у кожным калектыве. У гэтай рабоце трэба ўсебакова выкарыстаць рэвалюцыйныя, баявыя і працоўныя традыцыі рабочага класа, працоўных усіх рэспублік Савецкага Саюза, шырэй паказваць, што далейшае развіццё міжнацыянальных адносін, умацаванне дружбы народаў, працэсы росквіту і збліжэння сацыялістычных нацый плённа ўплываюць на ўсе сферы жыцця савецкага грамадства — эканоміку і палітыку, ідэалогію і мараль, культуру і быт.

Абавязак кожнага камуніста — усямерна ўмацоўваць у масах свядомасць прыналежнасці да адзінай сацыялістычнай Радзімы, да вялікай інтэрнацыянальнай арміі будаўнікоў новага грамадства. Неабходна і надалей настойліва весці работу па выхаванні працоўных у духу глыбокай павагі да ўсіх нацый і народнасцей, непрымірымасці да перажыткаў нацыяналізму і шавінізму, праяўленняў месніцтва, забяспечыць паслядоўна класавы, строга навуковы падыход у ацэнцы гісторыі народаў.

Партыйныя арганізацыі павінны зыходзіць з таго, што нацыянальнае пытанне з'яўляецца адным з вострых участкаў барацьбы паміж сацыялізмам і капіталізмам, марксізма-ленінізма супраць буржуазнай і рэвізіяністкай ідэалогіі. Імкнучыся аслабіць пазіцыі сацыялізма, унесці раскол у рады міжнароднага камуністычнага і рабочага руху, падавіць нацыянальна-вызваленчы рух, імперыялісты шырока звяртаюцца да распальвання расізму, спрабуюць раз'яднаць на нацыянальнай глебе розныя атрады працоўных. Буржуазная прапаганда імкнецца ўкараніць нацыяналістычныя погляды ў свядомасць народаў сацыялістычных краін, выкарыстаць нацыяналізм для падрыву сацыялістычнага ладу. Задача заключаецца ў тым, каб пастаянна весці прапаганду ідэй пралетарскага інтэрнацыяналізму, дружбы і братства народаў, даваць своечасовую палітычную ацэнку варожым спробам адрадзіць нацыяналістычныя настроі і погляды. Неабходна рашуча выкрываць ідэолагаў антыкамунізма, правага і «левага» рэвізіянізму, нацыяналізму і шавінізму.

Рэкамендаваць ВЦСПС ажыццявіць мерапрыемствы, якія прадугледжвалі б шырокі ўдзел прафсаюзаў у падрыхтоўцы і святкаванні 50-годдзя ўтварэння СССР. Усю гэту работу весці пад знакам узмацнення кіруючай ролі рабочага класа на чале з Камуністычнай партыяй ва ўмацаванні Саюза ССР, далейшага развіцця творчай актыўнасці рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі, усіх працоўных у вырашэнні агульнанародных задач гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, пастаўленых XXIV з'ездам КПСС.

Рэкамендаваць ЦК ВЛКСМ ажыццявіць мерапрыемствы па ўдзеле камсамольцаў, моладзі ў падрыхтоўцы і святкаванні 50-годдзя СССР. Работа камсамольскіх арганізацый павінна быць накіравана на выхаванне падрастаючага пакалення ў духу камуністычнай ідэйнасці, адданасці нашай Савецкай Радзіме, непарушнай дружбы народаў, сацыялістычнага інтэрнацыяналізму. Звярнуць асаблівую ўвагу на вывучэнне камсамольцамі, усёй моладдзю марксісцка-ленінскай тэорыі нацыянальнага пытання, ленінскай нацыянальнай палітыкі КПСС, дасягненняў Саюза ССР, на засваенне слаўных інтэрнацыяналісцкіх традыцый Камуністычнай партыі і Ленінскага камсамола, на актыўны ўдзел юнакоў і дзяўчат у барацьбе за выкананне рашэнняў XXIV з'езда КПСС.

Міністэрству абароны СССР і Галоўнаму палітычнаму ўпраўленню Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту ў адпаведнасці з гэтай пастановай распрацаваць указанні камандзірам, палітарганам, партыйным арганізацыям аб разгортванні шырокай прапагандысцкай і масава-палітычнай работы ў сувязі з падрыхтоўкай да 50-годдзя ўтварэння Саюза ССР. Накіраваць палітычную работу на далейшае ўмацаванне дружбы і братства воінаў усіх нацыянальнасцей, выхаванне гордасці за дасягненні нашай Радзімы, садружнасці сацыялістычных краін, гатоўнасці са зброяй у руках абараняць рэвалюцыйныя заваёвы народаў.

Рэдакцыям газет «Правда», «Известия», «Социалистическая индустрия», «Сельская жизнь», «Советская Россия», «Экономическая газета», «Труд», «Комсомольская правда», часопісаў «Коммунист», «Партийная жизнь», «Политическое самообразование», «Агитатор» і іншых цэнтральных газет і часопісаў, ТАСС, Дзяржаўнаму камітэту Савета Міністраў СССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні і яго мясцовым органам, рэдакцыям рэспубліканскіх, краявых, абласных, гарадскіх і раённых газет і часопісаў арганізаваць шырокае асвятленне падрыхтоўкі да 50-годдзя СССР, поспехаў ленінскай нацыянальнай палітыкі, яе міжнароднага значэння.

Неабходна паўней выкарыстоўваць цэнтральны і мясцовы друк, тэлебачанне, радыё ў інтэрнацыянальным выхаванні працоўных, усебакова асвятляць жыццё ўсіх савецкіх рэспублік, іх брацкае супрацоўніцтва, апіраючыся пры гэтым на шырокі

---

КОЖНУЮ ПЯТНІЦУ, праглядаючы раніцой свежую пошту, я перш-наперш — сярод іншых газет і часопісаў — разгортваю «ЛіМ». Яго знаёмыя, непадобныя на іншыя газетныя старонкі (дарэчы, даўно пара, каб «ЛіМ» выходзіў адным сшытачкам, а не двума, як зараз) бярэш у рукі з нейкім асаблівым пачуццём узрушанасці і замілавання: што сёння на яго шаснаццаці палосках, што новага з прозы і паэзіі, чые імёны і творы трапілі ў поле зроку ягонай увагі? Кожную пятніцу найперш прагледзець «ЛіМ» — гэта стала для мяне не проста звычкай, а жыццёвай, душэўнай, калі хочаце, неабходнасцю.

Пэўна, з такім жа шчырым пачуццём зацікаўленасці страчаюць кожны чарговы нумар «Літаратуры і мастацтва» ўсе мае калегі па пяры — празаікі, паэты, драматургі, крытыкі.

Аднак «ЛіМ» — роднае і блізкае выданне не толькі для нас, пісьменнікаў. Такім жа сваім лічаць яго і беларускія мастакі, скульптары, кампазітары, музыканты, архітэктары, дзеячы тэатра і кіно, работнікі культуры. І не толькі яны. Несумненна, што сярод удзячных чытачоў «ЛіМа» — народныя майстры і ўмельцы, шматлікія аматары мастацкай самадзейнасці, настаўнікі, студэнты, вучні, — усе, хто цікавіцца пытаннямі культуры, літаратуры і мастацтва нашага народа, хто заклапочаны іх далейшым развіццём і росквітам. Іначай і не можа быць, бо асноўнае прызначэнне нашай газеты — усебаковае асвятленне мастацкага і культурнага жыцця Беларусі.

Заўтра «ЛіМу» спаўняецца сорак гадоў...

Першы нумар газеты «Літаратура і мастацтва» выйшаў у свет 26 лютага 1932 года. У прывітанні, з якім звярнуўся да газеты Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі і якое было надрукавана ў яе першым нумары, выказвалася цвёрдая ўпэўненасць, што яна «будзе сапраўдным баявым органам у змаганні за генеральную лінію партыі, за ленінскую нацыянальную палітыку, за гегемонію пралетарскай літаратуры БССР, у змаганні за бальшавіцкую партыйнасць пралетарскага мастацтва, за стварэнне літаратуры і мастацтва — пралетарскага зместам і нацыянальнага формай».

З першых дзён свайго існавання «ЛіМ» з годнасцю выконваў гэтую сваю пачэсную задачу. Газета нямала зрабіла для згуртавання і кансалідацыі на партыйнай, марксісцка-ленінскай аснове літаратурных і мастацкіх сіл рэспублікі, шырока асвятляла культурнае будаўніцтва ў Беларусі, натхняла дзеячоў літаратуры і мастацтва на стварэнне высокамастацкіх і высокаідэйных твораў аб новай сацыялістычнай яве і аб новых людзях — яе творцах.

Гэтай пачэснай задачы газета «Літаратура і мастацтва» — орган Міністэрства культуры і праўлення Саюза пісьменнікаў БССР — верная і цяпер. «ЛіМ» дбае аб развіцці і росквіце літаратуры і мастацтва Савецкай Беларусі, шмат робіць для таго, каб


ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
№ 1 1932 Менск 26 лютага
ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ 5 КАП.
ОРГАН ФЭДЭРАЦЫІ АБ'ЯДНАНЬНЯЎ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ І ГАЛОЎМАСТАЦТВА БССР
Прывітаньне ЦК КП(б)Б газэце „Літаратура і Мастацтва"
ЦК КП(б)Б шле бальшавіцкае прывітаньне газэце „Літаратура і Мастацтва" у сувязі з выхадам першага нумару.
ЦК упэўнены, што газэта будзе сапраўдным баявым органам у змаганьні за генэральную лінію партыі, за ленінскую нацыянальную палітыку, за гегемоні[ю] пролетарскай літаратуры БССР, у змаганьні за бальшавіцкую партыйнасьць пролетарскага мастацтва, за стварэньне літаратуры і мастацтва—пролетарскага змест[ам] і нацыянальнага формай.
Сакратар ЦК КП(б)Б ШАРАНГОВІЧ.
Змагацца за магнітабуды літаратуры і мастацтва

## ЛЕТАПІС ДУХОЎНАГА ЖЫЦЦЯ НАРОДА

*СЛОВА З ВЫПАДКУ САРАКАВЫХ УГОДКАЎ «ЛІМА»*

чытачы і грамадскасць рэспублікі былі ў курсе новых твораў і важнейшых з'яў літаратурнага працэсу, шырока асвятляе тэатральнае і музычнае жыццё, піша пра кіно і выяўленчае мастацтва, расказвае аб рабоце бібліятэк, клубаў, музеяў і іншых культурна-асветных устаноў. У полі зроку газеты—і важнейшыя сацыяльна-грамадскія праблемы, пытанні культурна-эканамічнага будаўніцтва ў рэспубліцы, маральна-этычная тэма.

У назве штотыднёвіка на першым месцы стаіць слова «літаратура». І, можа, ужо адно гэта сведчыць аб характары выдання — сённяшняга юбіляра: «ЛіМ» — баявы і аператыўны орган пісьменніцкай арганізацыі Беларусі, ён стаіць на пярэднім краі развіцця роднай літаратуры. Пра гэта хочацца сказаць найперш.

Сорак гадавых падшывак «ЛіМа»— гэта, бадай, найбольш поўная і ўсебаковая гісторыя роднай літаратуры апошніх чатырох дзесяцігоддзяў, гісторыя, у якой занатаваны ўсе важнейшыя і істотнейшыя з'явы, падзеі і тэндэнцыі нашага літаратурнага жыцця, усе этапы станаўлення і развіцця беларускага мастацкага слова.

Газета, аднак, не староннi, не бясстрасны летапісец гісторыі роднай літаратуры. «ЛіМ» актыўна ўдзельнічае ў фармаванні літаратурнага працэсу ў рэспубліцы, з надзейных, партыйных пазіцый уплывае на яго характар і развіццё.

У пацвярджэнне гэтых слоў прыгадаем хоць бы тое, што яшчэ ва ўсіх у памяці — старонкі «ЛіМа» за мінулы год. У пачатку года газета, рыхтуючыся да VI з'езда пісьменнікаў Савецкай Беларусі, распачала шырокую перадз'ездаўскую дыскусію. Творчую трыбуну «ЛіМа» выкарысталі каля дваццаці пісьменнікаў, паэтаў і крытыкаў, якія шырока і ўсебакова агледзелі нашу літаратурную гаспадарку, узнялі шэраг надзённых праблем і пытанняў, вырашэнне якіх несумненна паспрыяе далейшаму развіццю беларускай літаратуры. А ў другой палове года на лімаўскіх старонках разгарнулася дыскусія аб стане і задачах беларускай крытыкі і літаратуразнаўства, якая стала добрым зачынам размовы, што адбылася на нядаўнім пленуме праўлення пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі. Поруч з гэтым газета друкавала артыкулы і рэцэнзіі на новыя кнігі беларускіх пісьменнікаў, крытычныя агляды чарговых нумароў нашых літаратурна-мастацкіх часопісаў, творчыя партрэты літаратараў, вяла разнастайную хроніку літаратурнага жыцця, змяшчала вершы і апавяданні, урыўкі з паэм і аповесцей...

## ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

**Заўтра спаўняецца шэсцьдзесят гадоў вядомаму нашаму празаіку і крытыку Уладзіміру Карпаву. З гэтай нагоды яго сардэчна вітаюць сябры-пісьменнікі. Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:**

**«Дарагі Уладзімір Барысавіч!**

**Шчырае, сардэчнае прывітанне Вам, нашаму таварышу па літаратурнай працы, добраму сябру, з нагоды Вашага 60-годдзя.**

**Настаўнік у даваенны час, актыўны ўдзельнік партызанскай барацьбы ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Вы прыйшлі ў літаратуру сталым чалавекам, у якога багаты жыццёвы вопыт і невычэрпны запас уражанняў і назіранняў. Выступіўшы спярша як літаратурны крытык, Вы прысвяцілі потым свой талент рабоце ў жанры мастацкай прозы.**

**«За годам год», «Вясеннія ліўні», «Нямігі крывавыя берагі», «Сотая маладосць»—раманы, прысвечаныя беларускай сталіцы і яе жыхарам, іх лёсу ў вайне і ў гады пасляваеннай адбудовы. Гэта своеасаблівы мастацкі летапіс жыцця і барацьбы Мінска і мінчан на вялікім і важным гістарычным этапе. Раманы з'яўляюцца каштоўным укладам у сучасную беларускую прозу, яны заваявалі заслужаную папулярнасць у шырокіх колах чытачоў у Беларусі і далёка за яе межамі.**

**Шмат зроблена Вамі і ў жанры літаратурнай крытыкі, сведчанне гэтаму—кніга крытычных работ «Крылаты ўзлёт». Вядомы Вы чытачам і як таленавіты публіцыст, які адгукаецца на надзённыя пытанні нашага жыцця.**

**Мы рады адзначыць, што і сёння Вы ў росквіце творчых сіл, працуеце актыўна і плённа.**

**Ад усяго сэрца жадаем Вам, дарагі Уладзімір Барысавіч, здароўя, радаснага настрою, новых творчых здабыткаў».**

**Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтых шчырых слоў прывітання і ў сваю чаргу жадае Уладзіміру Барысавічу доўгіх гадоў жыцця і вялікіх творчых поспехаў.**



# АКРЫЛЁНЫ ТАЛЕНТАМ

МНЕ заўсёды здавалася і здаецца, што Уладзімір Барысавіч Карпаў нашмат старэйшы за мяне, хоць я пэўна ведаю, што на якога паўдзесятка гадоў я ў сваім веку абагнаў яго. І здаецца мне гэтак невыпадкова: Уладзімір Карпаў, наш вядомы празаік і крытык, намнога багацейшы за мяне жыццёвым вопытам. Бывае ж так: часам пройдзеш карацейшай дарогай, а ўбачыш больш, чым на самай доўгай.

Я люблю слухаць, калі пад добры настрой разгаворыцца Уладзімір Карпаў. І не абы пра што разгаворыцца, а пра тое, што ён перажыў, пабачыў на сваім, цяпер ужо немаленькім веку. Адчуваеш, што ад судакранання з гэтым чалавекам сам багацееш душою, набіраешся той мудрасці, якая, нібы компас, вельмі патрэбна ў дарозе. Мудрасць наогул той скарб, які ніколі не залежваецца, не псуецца.

Уладзіміра Карпава, як пісьменніка, як чалавека, я ведаю ўжо даўнавата. Яшчэ калі жыў у Баранавічах, то, як я прыязджаў у Мінск, ці ён у Баранавічы, мы абавязкова сустракаліся. А калі часам здаралася, што Карпава не было дома, ці па якой іншай прычыне мы не маглі сустрэцца, я лічыў паездку збедненай. Я зайздросціў яго веданню ўсіх літаратурных спраў, веданню твораў і, галоўнае, таму, што гэтае веданне было як бы на чым выверана. Я не заўважаў у ягоных разважаннях пра літаратурныя творы, пра асобных пісьменнікаў ніякай суб'ектыўнасці.

Аднойчы, яшчэ ў Баранавічах, я прачытаў Уладзіміру Карпаву сваё першае практыкаванне ў прозе. Надумаў быў тады напісаць раман (адразу раман!). Вядомы крытык уважліва выслухаў мяне, пагартаў рукапіс і сказаў:

— От гэта, братка, твая дарога. Трымайся яе!

Праз доўгія гады я ніяк не мог натрапіць на тую дарогу. І натрапіў на яе ўжо не з раманам, а з нарысамі, апавяданнямі.

Да слова Уладзіміра Карпава-крытыка прыслухоўваліся шмат якія пісьменнікі, бо гэтае слова, як правіла, было аб'ектыўным, добразычлівым.

Узбагачаны вопытам жыцця і асабліва вопытам барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, пісьменнік не мог утрымаць у сабе таго, што настойліва прасілася з думак, з сэрца. Былы падпольшчык, які прайшоў, як той казаў, агні і воды, не мог трымаць у сабе той жыццёвы матэрыял, які да краёў поўніў яго душу. У гады Вялікай Айчыннай Уладзімір Карпаў быў разведчыкам, падпольшчыкам. Гераізм і мужнасць нашага народа ён не толькі наглядаў — ён сам праяўляў цуды мужнасці і гераізму ў змаганні з фашызмам.

Пра змаганне, пра гераізм і мужнасць народа Уладзіміру Карпаву трэ было сказаць сваё слова. І ўжо ў 1948 годзе, калі сама пачалі рубцавацца раны вайны, але яшчэ да балючасці свежыя былі ў памяці людзей падзеі яе, Уладзімір Карпаў робіць спробу расказаць людзям пра тое, што перажыў сам, што перажылі яны. Карпаў піша свой першы празаічны твор «Без нейтральнай паласы». Таму, хто сочыць за творчасцю пісьменніка, няцяжка заўважыць, што першы твор быў своеасаблівым трамплінам, з якога можна было зрабіць скачок у «вялікую прозу». У далейшых творах пісьменніка, асабліва ў раманах «Нямігі крывавыя берагі» і «За годам год», можна сустрэцца са знаёмымі— па першым творы — людзьмі, заўважыць эпізоды, карціны, экспазіцыі, якія атрымалі сваё далейшае развіццё. Ды гэта, мабыць, і натуральна: пісьменнік ва ўсіх сваіх творах ідзе ад перажытага, карыстаецца матэрыялам першакрыніц, а больш, мабыць, правільна — матэрыялам свайго сэрца.

У той час, калі Карпаў апублікаваў аповесць «Без нейтральнай паласы», наша проза як бы ўзыходзіла на той узгорак, з якога відненіся далягляды будучыні. Вядома і тое, што пачатковы крок не заўсёды бывае цвёрдым. Але вядома і тое, што без першага не бывае другога. А Карпаў намерыўся ісці ў літаратуру сваёю дарогаю, прыйсці ў яе са сваёю тэмаю. Яму хацелася сказаць тое, чаго яшчэ і пра што ніхто нічога не сказаў.

У мяне захаваўся экземпляр першага, цяпер ужо даўняга выдання «Без нейтральнай паласы». Не ведаю, у чыіх руках пабывала гэтая кніжка. Адно знайшоў я ў ёй вельмі многа пападкрэсленых словаў і сказаў. Не ведаю, чым кіраваўся той, хто падкрэсліваў. Мо ў яго і добрыя былі намеры: памагчы аўтару зрабіць твор больш дасканалым. А можа той, хто падкрэсліваў, спадзяваўся, што калі-небудзь экземпляр патрапіць аўтару на вока і ён, аўтар, убачыць, які ён яшчэ слабы пісьменнік. Здаецца, чуеш словы таго, хто падкрэсліваў: «Гэта табе не крытыка. Там часам можна абысціся і прыблізнымі словамі і думкамі. Гэта проза. Яна не церпіць не толькі моўнага штампу. Яна не церпіць прыблізнасці, гламаздаватасці слова». Няхай у першым творы пісьменніка не ўсе словы стаялі на месцы, няхай не ўсе яны стралялі ў цэль, аднак гэта быў той пачатак, ад якога Уладзімір Карпаў пайшоў па цяжкай дарозе літаратурнай творчасці. Наступныя ягоныя творы ўжо не прыблізныя ні па форме, ні па змесце. Яны леглі трывалымі цаглінамі нашай беларускай, ды і не толькі беларускай, літаратуры. Перакладзеныя на мовы братніх рускага і ўкраінскага народаў, яны панеслі славу нашага народа, славу нашага роднага Мінска далёка-далёка. І ў тым, што Беларусь цяпер стала славутаю не толькі сваім партызанскім мінулым, а і індустрыяльным сучасным, значная заслуга і карпаўскіх раманаў.

Раманы пісьменніка «За годам год», «Нямігі крывавыя берагі», «Вясеннія ліўні» і апошні, нядаўна выдадзены раман «Сотая маладосць», публіцыстычныя кнігі, напісаныя пісьменнікам альбо выдадзеныя пад яго рэдакцыяй, пры яго чынным удзеле —«Горад і годы», «Мы раскажам пра Мінск», зборнік успамінаў падпольшчыкаў і партызан «Праз агонь і смерць», альбом пра Мінск — усе гэтыя творы сведчаць пра тое, што ў асобе Уладзіміра Карпава мы маем песняра сённяшняга Мінска, горада ратнай і працоўнай славы. Пісьменнік улюбёны ў Мінск, у яго вуліцы і плошчы, у яго сады і паркі і, асабліва, у яго людзей. Яны — прадмет пільнай творчай увагі пісьменніка. Пасля прачытання любога з карпаўскіх раманаў хочацца ісці ў людзі. Думаеш: напэўна там сустрэнеш знаёмага па рамане чалавека, пагаворыш з ім, «адвядзеш», як той казаў, душу. Карпаўскія героі — разумныя, дапытлівыя, зацікаўленыя людзі. Яны могуць з табою параіцца, яны самі могуць табе параіць. Ты іх можаш палюбіць ці зненавідзець, але ты не застанешся абыякавым да іх. Гэта, мабыць, добрая якасць літаратурных герояў.

Калі прачытаеш запар адзін за адным раманы Карпава, пераконваешся, што пісьменнік ставіў як адну з важнейшых творчых задач: адлюстраваць жыццё нашай сталіцы, паказаць яе індустрыяльнае аблічча, яе новую магутнасць. І які б мы ні ўзялі са шматлікіх карпаўскіх вобразаў: Міхаіла Шарупіча, Урбановіча, Лёдзю, Веру Антонаўну, Кашына, Зімчука і многіх іншых, амаль кожны з іх — паўнакроўны вобраз нашага сучасніка. Гэта робіць раманы блізкімі, я нават сказаў бы — неабходнымі нам.

Пра раманы Уладзіміра Карпава напісана і сказана нямала. Гэта добра. Яны нікога не пакідаюць абыякавым. Яны палемічныя. Прачытаеш кожны з іх, і хочацца паспрачацца не толькі з аўтарам, але і з героямі. А гэта, мабыць, адзнака найлепшых якасцей твора. Толькі тая кніга, якая бударажыць, узрушае цябе, здольна на тое, каб узнімаць, мабілізоўваць людзей. Наша родная партыя аддае столькі ўвагі літаратуры таму, што яна (літаратура) з'яўляецца важнейшым выразнікам грамадскага жыцця. Нашы творы павінны быць творамі-барацьбітамі. Раманы Уладзіміра Карпава і з'яўляюцца кнігамі-змагарамі.

Пра Уладзіміра Карпава можна было б напісаць не адзін артыкул як пра крытыка-літаратуразнаўцу. Наўрад ці ёсць у нашай беларускай літаратуры больш-менш значны твор, на які б не адгукнуўся Карпаў. Змешчаныя ў кнігах «Па шляху сталасці» і «Крылаты ўзлёт» артыкулы як бы падсумоўваюць усё тое, што зрабіла наша родная беларуская літаратура. І пра ўсё сказана з цвярозасцю, з любоўю, з грамадзянскай добразычлівасцю.

Уладзімір Барысавіч Карпаў, нягледзячы на свае шэсцьдзесят год, у спорнай хадзе ў будучыню. І наўрад ці бачыць ён тую станцыю, на якой давядзецца яму прысесці адпачыць.

Неяк давялося нам удвох гуляць па алеях парку. Уладзімір Барысавіч пачаў расказваць мне пра свае новыя задумы. Ён ніколі не пісаў навел. Гэта будзе яго першая кніжка ў гэтым жанры. Назваў ён яе «Прызнанне ў нянавісці і любві». Вуха маё, прызвычаенае ў нейкай меры да стылявых штампаў, улавіла немілагучнае спалучэння слоў. Пра гэта я сказаў пісьменніку. Ён падумаў-падумаў і сказаў, што сам змест будучай кнігі вымагае такога і не інакшага спалучэння слоў. А пра тое, што аўтарская задума будзе рэалізавана, сведчаць апавяданні, надрукаваныя ў часопісе «Полымя». Яны — жывыя сведкі аўтарскага гарэння. Падзеі, што адлюстраваны ў апавяданнях, аўтар не толькі наглядаў, як старонні чалавек, ён сам у іх удзельнічаў. Ён, як гэта кажуць, не адзін пуд солі з'еў з героямі іх. Гэта, мабыць, вельмі добра, што Уладзімір Карпаў звярнуўся да «свае» тэмы. Яна, гэтая тэма, невычэрпная, а з цягам год яна набудзе яшчэ больш значнасці.

Хацелася б сказаць некалькі слоў пра патрабавальнасць пісьменніка. Кожны свой твор ён перарабляе, амаль перапісвае па некалькі разоў.

Талент пісьменніка прама прапарцыянальны ўспрыняццю і разуменню ім жыцця. Чым глыбей і шырэй пісьменнік ўспрымае жыццё, тым цікавейшыя і багацейшыя ягоныя творы. Тое, што піша пісьменнік, заўсёды павінна быць акрылена талентам, і чым большы гэты талент, тым шырэйшы размах крылаў для палёту.

**Раман САБАЛЕНКА.**

(Заканчэнне. Пачатак на 6—7 стар.).

Нельга сказаць, што такіх якасцей зусім не было ў нашых вядомых крытыкаў—маю на ўвазе Р. Бярозкіна, А. Адамовіча, В. Каваленку. Але нават і яны далёка не заўсёды паказвалі ў гэтай справе прыклад. Прыйшла пара, мусіць, усім нам вучыцца і перавучвацца. Крытыка наша застаецца абмежавана-правінцыяльнай па сваёй псіхалогіі. У нас — свае зоркі, свае арбіты, да якіх усе прызвычаіліся. Ці не таму наша крытыка стала ў апошні час такой правінцыяльна-кампліментарнай. Можа яно і нядобра, каб сённяшні крытык падносіў таму-сяму, кажучы словамі верша Крапівы, «фігу на талерцы», але ж якая карысць і ад таго абачлівага далікацтва, ананімна-бяздарных закідаў, калі нярэдка наш крытык грозна паказвае камусьці фігу ў кішэні?

Далей, закранаючы важныя праблемы літаратурнага жыцця, М. Арочка ўносіць некаторыя прапановы — распачаць вялікую працу аб паэзіі літаратурнага пакалення, на плячах якога цяпер асноўная творчая нагрузка, звярнуць увагу на паляпшэнне работы з аўтарамі ў выдавецтве.

## НАШ КЛОПАТ, НАШЫ ЗАДАЧЫ

*З выступлення Івана ШАМЯКІНА*

УСЕ МЫ ВЫДАТНА ведаем, якое значэнне для развіцця літаратуры і ўсіх галін мастацтва мелі пастановы нашай партыі аб літаратуры 1925 і 1932 гадоў. Яны вызначылі генеральны кірунак літаратуры новага свету і новага светапогляду, вызначылі арганізацыйныя формы аб'яднання і працы творцаў мастацкай культуры першай краіны сацыялізма.

Побач з тымі гістарычнымі пастановамі, якія вывучае сёння кожны вучань і студэнт, мы ставім цяпер Пастанову ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». Яна глыбока аналізуе стан літаратурна-мастацкай крытыкі і паказвае шляхі пераадолення ўсіх недахопаў не толькі ў крытыцы, але і ва ўсёй літаратуры.

Між іншым, самі крытыкі яшчэ да Пастановы ЦК даволі самакрытычна выказваліся пра свой цэх. Магу нагадаць адзін з лепшых артыкулаў апошняга часу—«Думкі пра сучасную літаратурную крытыку» Віктара Каваленкі.

Прыкладна такія ж думкі, як у гэтым артыкуле, выказвалі многія аўтары — крытыкі і пісьменнікі — у дыскусіі, якая вялася ў апошнія месяцы на старонках газеты «Літаратура і мастацтва». Гэта дыскусія — з'ява станоўчая і карысная. Асабліва радавала разуменне ўсімі таварышамі тых задач, якія вынікаюць з рашэнняў XXIV з'езда КПСС.

Аднак, гаворачы пра станоўчае ў дыскусіі, І. Шамякін гаворыць і пра яе недахопы. У прыватнасці, ён лічыць, што размова пра крытыку, за невялікім выключэннем, ішла як бы ў адрыве ад сучаснага жывога літаратурнага працэсу, ад тых твораў апошніх гадоў, якія найбольш вядомы шырокай грамадскасці, якія займалі яе ўвагу: п'есы А. Макаёнка, аповесці В. Быкава, раманы І. Чыгрынава і І. Пташнікава, нарысы Я. Сіпакова і г. д.

Думаю, усе вы згодзіцеся, што ЦК КПСС, прымаючы Пастанову, меў на ўвазе не адну крытыку, а бачыў перад сабой усё шырокае поле савецкай многанацыянальнай літаратуры і мастацтва. Крытыка на дадзеным этапе — гэта тое дыялектычнае ленінскае звяно, ўзяўшыся за якое, можна ўзняць на новую ступень, параўнаўча больш высокую, як таго патрабуе XXIV з'езд КПСС, усю мастацкую творчасць народа—будаўніка камунізма, усе віды і жанры літаратуры і мастацтва, а праз іх—ідэйнае і эстэтычнае выхаванне працоўных, і ў першую чаргу моладзі.

Ох, як мала ў нас з'яўлялася добрых артыкулаў на ўсе гэтыя, такія надзённыя, такія надзвычай важныя і патрэбныя тэмы! Хочацца выказаць упэўненасць, што Пастанова ЦК скіруе ўвагу ўсіх нас на распрацоўку актуальных тэм.

Многа месца ў сваім выступленні І. Шамякін адвёў размове аб ролі фальклору ў развіцці нашай літаратуры. Прамоўца слушна адзначыў, што ў свой час, запалоненыя тэорыяй фальклорнага паходжання, многія крытыкі прызнавалі і высока ацэньвалі толькі творы пра сялянскі побыт, прытым побыт мінулы, дзе было месца фальклору, этнаграфіі, і часта не заўважалі твораў, у якіх шукаліся новыя тэмы, новыя вобразы, новыя формы. А ў жыцці і ў літаратуры ўсё ўзаемазвязана. Неаспрэчанае на працягу доўгага часу панаванне гэтай тэорыі адпуджвала пісьменнікаў ад новых тэм — ад тэм сацыялістычнага горада, а яшчэ больш канкрэтна — рабочага класа, які зараз складае большую палавіну працоўнага насельніцтва рэспублікі.

Закрануў І. Шамякін важнае пы-

танне падрыхтоўкі спецыялістаў у галіне гісторыі і тэорыі літаратуры, кіно, тэатра, музыкі, выяўленчага мастацтва.

# КРЫТЫКА — ПЯРЭДНІ КРАЙ ЛІТАРАТУРЫ

## НЕКАТОРЫЯ ПРАБЛЕМЫ ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

*З выступлення Адама МАЛЬДЗІСА*

ХАЦЯ ЛІТАРАТУРНАЯ крытыка часам ставіцца высакамерна да літаратуразнаўства, аднак, мне здаецца, крытыка ў многім залежыць ад яго поспехаў.

Эфектыўнасць літаратуразнаўчых даследаванняў заключаецца ў тым, каб як мага больш чытачоў як можна хутчэй і ў поўнай меры пазнаёміліся з думкамі таго ці іншага даследчыка, каб праца хутчэй увайшла ў літаратуразнаўства. І вось на шляху да гэтай мэты ўзнікае першы бар'ер, які можна назваць «лістажом». У Інстытуце літаратуры вялікая колькасць навуковых работнікаў, аднак выдавецтва «Навука і тэхніка» плануе на літаратуразнаўчую прадукцыю інстытута нязначную колькасць друкаваных аркушаў. Гэта значыць, што каля паловы нашай прадукцыі пішацца без канкрэтнай магчымасці рэалізацыі. Праўда, з цягам часу кнігі выходзяць. Але выходзяць у скарочаным выглядзе, і нездарма крытыка потым папракае даследчыка, што работа недастаткова абгрунтаваная.

У сваім выступленні А. Мальдзіс называе і іншыя бар'еры на шляху літаратуразнаўства. Малы тыраж кніг, якія выходзяць у выдавецтве, непаваротлівасць работнікаў кнігагандлёвых сістэм, у выніку чаго кнігі дрэнна даходзяць да сваіх чытачоў. Ёсць яшчэ адзін бар'ер: ён заключаецца ў тым, заўважае прамоўца, што адзін даследчык напісвае, а іншыя—не пачытваюць, і ў выніку вельмі часта адкрываеш новую кнігу, а там паўтараецца тое, што было ўжо выказана ў 20—30-х і 40-х гадах.

## КРЫТЫКА—ВЫРАЗНІК ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ

*З выступлення Алеся АСІПЕНКІ*

НАШ САЎДЗЕЛ у развіцці літаратурнай крытыкі заключаецца не толькі ў тым, каб выступаць з крытычнымі артыкуламі, аглядамі і г. д., але больш за ўсё, каб даваць прадукцыю высокай якасці, з глыбокімі праблемамі і запамінальнымі вобразамі, літаратуру высокага грамадзянскага гучання.

Я не зусім згодзен з Л. Гаўрылкіным, які заклікаў на падставе недасканалай літаратуры ствараць дасканалыя праблемныя тэарэтычныя артыкулы. Мне здаецца, што шэрая павярхоўная літаратура не родзіць глыбокай праблемнай крытыкі.

Як бы мы ні заплюшчвалі вочы, а праблема ўзаемаадносін паміж крытыкамі і пісьменнікамі, можа, і не ў ярка выражанай форме, а ўсё ж існуе, і не з'яўляецца такой нязначнай, як можа здавацца на першы погляд. Наша крытычная думка часам рабіла небяспечныя зігзагі. Думаю, прыкладаў прыводзіць не варта, бо мы іх усе добра памятаем. Я прыгадваю гэта для таго, каб адзначыць сёння з радасцю, што наша крытыка вырасла ў барацьбе з рознымі перахлёстамі і недахлёстамі і стала на трывалы грунт навукі. З другога боку, рост нашай крытыкі цесна звязаны з ростам нашай літаратуры, бо, вядома ж, нізкія па мастацкім узроўні творы не шмат давалі крытыку для роздуму над жыццём. Іншая справа—творы такіх празаікаў, як Янка Брыль, Іван Мележ, Іван Шамякін, Васіль Быкаў, Аляксей Кулакоўскі і г. д. Іх творы сапраўды маглі стаць аб'ектам пільнай увагі, і яны станавіліся такім аб'ектам. Не памятаю ўжо, хто ў часе дыскусіі ў «Літаратуры і мастацтве» папракаў крытыку за тое, што яна бярэ для разгляду нейкі дзесятак, так сказаць, абойму аўтараў. Не кепска ўжо тое, што абойма гэтая павялічылася...

Наогул, няправільна вызначаць узровень крытыкі «па пагалоўʼі», ахопленым крытычнай увагай. Зрэшты, за вельмі рэдкім выключэннем, усе новыя творы рэцэнзуюцца і гэта, па-мойму, вялікае дасягненне. Але мне думаецца, што справа залежыць, урэшце, не ад колькасці прарэцэнзаваных твораў, хоць гэта надзвычай важна. Крытыка—орган самапазнання літаратуры. Але пры гэтым у ёй выказваюцца і думкі грамадства, яго патрабаванні да літаратуры. Каб быць выразнікам гэтай грамадскай думкі, неабходна добра ведаць жыццё.

А. Асіпенка зазначыў таксама, што ў нашых тоўстых часопісах аддзелы крытыкі і бібліяграфіі выглядаюць яшчэ недастаткова грунтоўна, звярнуў увагу на важнасць праблемы падрыхтоўкі крытычных кадраў, вітаў стварэнне спецыяльнага мастацкага выдавецтва, якое будзе больш увагі надаваць крытыцы.

## НА МАГІСТРАЛЬНЫХ ШЛЯХАХ ПАЭЗІІ

*З выступлення Анатоля ГРАЧАНІКАВА*

АДНОЙ СА СТАНОЎЧЫХ рысаў дакладчыка І. Мележа я адзначыў бы яго імкненне разгледзець стан літаратурна-мастацкай крытыкі на шырокім фоне развіцця нацыянальнай літаратуры. Сапраўды, крытыка—частка літаратуры, і ўзровень яе залежыць ад таго, наколькі глыбока і ўсебакова даследуе сама літаратура сучаснасць, наколькі цесна звязана яна з кардынальнымі праблемамі нашага часу. Як нельга пабудаваць на дробязных канфліктах і сітуацыях мастацкі твор вялікага грамадскага гучання, так нельга і крытыцы пры аналізе твораў, шэрых і неглыбокіх, узняцца да значных крытычных абагульненняў.

У сваім выступленні падзялюся думкамі наконт адносін, якія ўсталяваліся паміж нашай паэзіяй і крытыкай у працэсе іх агульнага развіцця.

Кніга вершаў «А дні ідуць» Петруся Броўкі, вершы і паэмы Аркадзя Куляшова, зборнікі вершаў «Міг бліскавіцы» Пімена Панчанкі, «Мой хлеб надзённы» Максіма Танка, паэма «Вецер з Волгі» Анатоля Вялюгіна, кніга вершаў «Сустрэча былых канагонаў» Міколы Аўрамчыка і шмат іншых у нейкай ступені вызначалі духоўны узровень нашага народа на пэўных этапах грамадскага развіцця, яны жывуць і зараз, без іх наша паэзія была б значна бяднейшая.

Пасляваенны прыліў творчых сіл у беларускую літаратуру ў канцы 50-х і пачатку 60-х гадоў значна ўзбагаціў паэзію. Зараз цяжка ўявіць яе без філасофскай і багатай на змест паэзіі Янкі Сіпакова, Анатоля Вярцінскага, Уладзіміра Караткевіча, Ніла Гілевіча, Петруся Макаля, Еўдакіі Лось, без ёмістых шматфарбных твораў Рыгора Барадуліна, Васіля Зуёнка, Юрася Свіркі, без публіцыстычна завостранай лірыкі Генадзя Бураўкіна, без творчасці Уладзіміра Паўлава і шмат іншых паэтаў сярэдняга пакалення. Але чаму так сталася, што творча многіх з іх крытыка да гэтага часу трымае «на лаве запасных»? Чаму ў актыве літаратурна-мастацкай крытыкі на сённяшні дзень няма разгорнутых крытычных артыкулаў—даследаванняў, у якіх бы з высокай прынцыповасцю і мастацкім майстэрствам былі размежаваны здабыткі і пралікі ў творчасці паэтаў гэтага цікавага літаратурнага пакалення?

Прамоўца спрабуе даць змястоўны адказ на гэтыя пытанні на канкрэтных прыкладах з паэзіі, падкрэсліваючы, што ніякія штучныя прынцыпы, якімі часам кіравалася крытычная думка, не могуць даследаваць з'явы жывога літаратурнага працэсу. У нашай літаратуры і мастацтве павінен быць адзін прынцып—прынцып партыйнасці і народнасці.

## ЦАНІЦЬ ПРАЦУ ПІСЬМЕННІКА

*З выступлення Міколы ГРЫНЧЫКА*

КАЛІ Я ЕХАЎ на пленум, я сустрэў аднаго рабочага з Навабеліцы. Ён аматар нашай літаратуры, чытае крытыку. І ён запытаўся: «Што там будуць абмяркоўваць? У Пастанове ж усё сказана: пішуцца кампліментарныя рэцэнзіі, назіраецца нізкі прафесійны ўзровень крытыкі...» Я кажу: «Праблемы ёсць, братка. Прыеду і раскажу табе аб усім».

І сапраўды, праблемы ёсць. Розныя. Надзённыя. Ёсць гэтая самая праблема—прафесійнага майстэрства. У нас увайшло ў звычку, што калі чалавек мае філалагічны дыплом і здаваў два экзамены па кандыдацкім мінімуме, ён можа ўзяць любую кніжку і можа напісаць любую рэцэнзію, пасля якой пісьменніку становіцца нудна. Не ўлічваецца псіхалогія чалавека, яго схільнасці, здольнасці. І чым такі вучоны-крытык менш ведае ў літаратуры, у жыцці, тым больш ён смялее.

Нам трэба змагацца з гэтай небяспечнай з'явай. Мы павінны выхоўваць крытыкаў, навучыць іх цаніць працу пісьменніка. З такой павагі пачынаецца роздум і прафесійнае майстэрства.

Не так даўно выйшла ў выдавецтве «Беларусь» кніжка Ніны Шкляравай, маладой паэтэсы. Я б не выдаваў такія маленькія кніжкі. Калі няма чаго выдаваць, дык трэба набрацца цярпення і пачакаць. Але вось выйшла гэтая кніжка. І вось яе сумнаватая гісторыя. З'явілася ў Гомельскай праўдзе рэцэнзія Кажамякіна, нашага мясцовага рэцэнзента. Ён пачынае паэтэсу лупцаваць: «вясковая псіхалогія»... Маўляў, піша пра нешта дапатопнае ў наш век касмічны, жыве ў горадзе, а блінцоў паесці смачных едзе ў вёску і г. д. Неўзабаве з'яўляецца сталічная рэцэнзія Яфімава на кніжку Ніны Шкляравай. Ён паэт добры, добры крытык, але дзіўная рэч: тое, што дрэнна ў Кажамякіна, тут—добра. Раптам выступае Арочка, і зноў крытыкуе яе. Каго слухаць? Дзяўчына разгубілася і пытаецца, ці пісаць ёй далей? Я параіў—пішы, не звяртай увагі. Вось, калі ласка, вам дапамога крытыкаў, а яны ж маюць справу з жывым чалавекам, да якога трэба чула адносіцца, тым больш што чалавек гэты—маладая паэтэса.

## БОЛЬШ АДКАЗНАСЦІ

*З выступлення Хведара ЖЫЧКІ*

СЁННЯ, Я ДУМАЮ, ніхто не стане адмаўляць, што крытыка—неад'емная частка літаратуры, што сапраўдны крытык—пісьменнік, а яго творы—літаратурныя творы. Крытыкі законна абураюцца выпадкамі непавагі да іх працы, хваравітай рэакцыяй на іх ацэнкі з боку асобных пісьменнікаў. Але патрабуючы павагі і раўнапраўя, вельмі часта крытыкі адлучаюць сябе ад літаратуры сваёй практычнай дзейнасцю.

Крытыкі справядліва сцвярджаюць, што мова—асноўны матэрыял літаратурнага твора, што сырой шаблоннай мовай нельга намаляваць праўдзівую карціну рэальнасці. А самі пішуць суха, нецікава, шаблоннымі фразамі, пераказваюць творы прозы і паэзіі. Крытыкі законна патрабуюць ад паэтаў і празаікаў адказнасці за кожнае слова. Самі ж у сваіх творах даюць узоры безадказнасці, выносяць неабгрунтаваныя ацэнкі творам, робяць лёгкадумныя прагнозы. Нарэшце, крытыкі заклікаюць паважаць крытыку, а самі хваравіта ўспрымаюць крытыку сваіх твораў. Вось гэтыя недахопы і многія іншыя, на мой погляд, і не даюць магчымасці сённяшняй нашай крытыцы ўзняцца на той высокі ідэйна-мастацкі ўзровень, на якім яны павінны быць.

## УВАГУ ПЕРАКЛАДАМ

*З выступлення Браніслава СПРЫНЧАНА*

РЭДКА ЯКІ паэтычны зборнік выпадае з поля зроку нашай крытыкі. Аб арыгінальных творах беларускіх паэтаў гавораць, спрачаюцца, пішуць. А вось пераклады беларускай паэзіі на рускую мову, ды і не толькі на рускую мову, не бяруцца пад увагу нашай крытыкай: хай імі займаецца руская крытыка... Так, мне здаецца, лічаць нашы крытыкі. Бо чым жа можна растлумачыць той факт, што за многія гады не з'явілася ні аднаго артыкула аб перакладах беларускіх вершаў і паэм, якія з месяца ў месяц друкуюцца ў часопісе «Неман»? Паўстае пытанне, хто ж, як не беларускія крытыкі, якія добра ведаюць і рускую мову, зоймуцца канкрэтным аналізам перакладаў, дапамогуць перакладчыкам удасканаліць сваю работу? Хіба не віна нашай крытыкі ў тым, што слабым перакладам цудоўных вершаў дагэтуль яшчэ не закрыта дарога нават у выбранае таго ці іншага паэта.

Свае вывады Б. Спрынчан падмацаваў прыкладамі з перакладзеных на рускую мову твораў Пімена Панчанкі, Дануты Бічэль-Загнетавай і інш.

## НЕ ЗАБЫВАЦЬ ПРА ЭТЫКУ

*З выступлення Алега ЛОЙКІ*

ДАЗВОЛЬЦЕ СПЫНІЦЦА на некаторых момантах нашага літаратурнага жыцця, на тых надзённых праблемах крытыкі, якія своечасова ўзняты ў Пастанове ЦК КПСС.

У сваім цікавым дакладзе Іван Паўлавіч Мележ вельмі слушна гаварыў аб задачах літаратурнага і грамадска-выхаваўчага характару сучаснай крытыкі, аб тым, што, змагаючыся за высокі ідэйны і мастацкі ўзровень твораў, неабходна разам з тым праяўляць такт у адносінах да работнікаў літаратуры і мастацтва. Але што часам атрымліваецца на справе?

А. Лойка прыводзіць прыклады, калі некаторым нашым выдавецкім работнікам, рэдактарам нестае такту параіцца з аўтарам адносна твораў, якія ўключаны ў яго кнігу, калі без узгаднення з аўтарам выкрэсліваюцца з вершаў цэлыя строфы. Такая ж бестактнасць маецца ў дачыненні да аўтараў і ў пэўных крытыкаў. У прыватнасці, А. Лойка лічыць, што ў сваіх артыкулах Р. Бярозкін часам губляе пачуццё меры, крытыкуючы аўтараў, як кажуць, ужывае недазволеныя прыёмы. Прамоўца заклікае ў далейшым захоўваць звычайную этыку ў літаратурных спрэчках.

## ЗДЗЕЙСНІМ НАМЕЧАНАЕ

*З выступлення сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Міхаіла ЛУКОНІНА*

ТЫЯ СУР'ЁЗНЫЯ задачы, якія былі пастаўлены на XXIV з'ездзе партыі перад літаратурай, у Пастанове ЦК КПСС аб крытыцы, і тое, аб чым тут, на вашым пленуме гаварылася,—усё гэта накіравана да адной мэты: гэта клопаты аб прынцыповай партыйнасці, аб ідэйным узроўні нашай савецкай літаратуры.

Відаць, у 1973 годзе адбудзецца ўсесаюзная размова аб паэзіі, сказаў далей прамоўца. І гэта невыпадкова. Многія гады, асабліва пасля вайны, сусветная паэзія прыцягвае ўвагу чалавека. Вы ведаеце, што ўвесь свет са здзіўленнем адзначае шчаслівае жыццё нашай савецкай паэзіі. Пытаюцца, чаму ў вас такія вялікія тыражы, чаму такая вялікая ўвага да паэзіі, такая цікавасць да яе? Адказаць на гэта вельмі проста: таму, што наша паэзія заўсёды з'яўлялася жыццёвай неабходнасцю і адказвала на надзённыя пытанні часу, была звернута да чалавека. У гэтым —сіла паэзіі. Аднак у нашай паэтычнай прадукцыі назіраецца часам і шэрасць.

Развіваючы гэтую думку, М. Луконін сказаў, што тут для крытыкі нямала работы. Крытыка павінна дапамагчы чытачу разабрацца ў добрым і дрэнным у паэзіі. Прамоўца таксама гаварыў, што крытыка яшчэ слаба аналізуе творы для дзяцей. Закрануў ён пытанні і аб паляпшэнні кнігагандлю, аб перакладах на рускую мову.

●

Пленум прыняў разгорнутую пастанову аб мерах па далейшым развіцці літаратурна-мастацкай крытыкі ў святле рашэнняў XXIV з'езда партыі і Пастановы ЦК КПСС.

Пленум запэўніў Цэнтральны Камітэт Кампартыі Савецкага Саюза і ЦК КПБ, што беларускія пісьменнікі зробяць усё магчымае для павышэння ролі літаратурнай крытыкі ў рашэнні задач камуністычнага выхавання працоўных, ва ўмацаванні і развіцці жыватворных традыцый сацыялістычнага рэалізму, якія грунтуецца на ленінскіх прынцыпах партыйнасці і народнасці літаратуры.



У перапынку паміж пасяджэннямі пленума: В. Быкаў, А. Дракахруст, У. Караткевіч.

Фота Ул. КРУКА.

# ПЛЁН ТВОРЧАЙ РАЗВЕДКІ

*НА КАНЦЭРЦЕ ДЗЯРЖАЎНАГА АНСАМБЛЯ ТАНЦА БССР*

Дзяржаўны ансамбль танца БССР выступіў з новай праграмай.

Апрача жадання пазнаёміцца з ёй, цікавасць узнікла яшчэ і таму, што папярэдняя праграма выклікала многа слушных дакораў — ад рэпертуару да мастацкага выканання, і цяпер хацелася ўбачыць, якія вывады зрабіў для сябе калектыў ансамбля, яго новы мастацкі кіраўнік — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, народны артыст БССР Сямён Дрэчын.

— Нам прыйшлося нанава разабрацца ў тэхналогіі беларускага танца, вывучаць харэаграфію фальклору, — расказвае ён. — Але калектыў працаваў над новай праграмай з вялікім жаданнем, з натхненнем, і я адчуваў, як з кожным тыднем расце майстэрства выканаўцаў.

Сапраўды, калі глядзіш вянок беларускіх танцаў — лірычна-задуменную «Перапёлачку», жартоўна-іскрыстыя «Янку» і «Крыжачок», бездакорна, з пункту гледжання і харэаграфічнага і фальклорнага, пастаўленую «Лявоніху» — адчуваеш, што сказана гэта не галаслоўна. Гэтак думаюць і спецыялісты.

— Я атрымаў вялізнае задавальненне. Такой «Лявоніхі» яшчэ не бачыў, — гэта словы кампазітара Юрыя Семянякі.

— Я захоплены гэтым калектывам. За іх новай праграмай — агромністая праца, — так закончыў сваё выказванне Сяргей Грабеншчыкаў, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, харэограф.

...Імкліва сплятаюцца і расплятаюцца гнуткія жаночыя рукі. А вакол — чырвоныя кропкі факелаў, скурчаныя, пачварныя постаці гітлераўцаў. Нарастае трывожная мелодыя. Жаночая група ў цэнтры — гэта ўжо трапяткое, бязлітаснае полымя, якое ахапіла жывыя чалавечыя целы. Заключны акорд, цішыня — і дзве кволыя рукі, якія ўзнімаюцца з папялішча.

Гэта ўражвае. Гэта не можа пакінуць раўнадушным. Хаця з тым, як вырашана канцоўка, можна спрачацца. Але адно несумненна: каб зрабіць **такое,** трэба дасягнуць пэўнай ступені майстэрства.

Дарэчы, можна спрачацца не толькі пра «Хатынь», пра яе месца ў праграме (думаецца, не варта заканчваць першае аддзяленне канцэрта менавіта гэтым нумарам), але і пра тое, ці правамернае ўключэнне ў праграму двух танцаў — «Сучасныя рытмы» і «Лянок» (таксама сучасныя варыяцыі).

— Які профіль Дзяржаўнага ансамбля танца БССР? Беларускі фальклор — вось, па-мойму, аснова яго дзейнасці. З гэтай лініі рэзка выпадае «Лянок». Танец пастаўлены добра, але... Мы бачым увачавідкі, як у нашы прафесійныя калектывы ўрываецца гэткі струмень эстраднасці, «аблегчанага» прачытання танца. А што будзе рабіць самадзейнасць, убачыўшы такое з вялікай сцэны?

Мне здаецца, што гэтыя словы Юліі Чурко, кандыдата мастацтвазнаўства, вельмі слушныя.

Ідучы на любое відовішча, настройваеш сябе па-рознаму, у залежнасці ад таго, што чакае наперадзе — эстрада, опера ці сімфанічны канцэрт. Ад гэтага калектыву мы чакаем перш за ўсё прапаганды народнага мастацтва, творча-прафесійнай яго апрацоўкі. Чаму на праглядзе, дзе сабраліся гледачы-прафесіяналы, зала найбольш ажыўлена рэагавала на танец «Весялуха», пастаўлены магілёўчанінам М. Дудчанкам, хаця гэта было не так прафесійна «чыста» пастаўлена, як, скажам, «Вясковыя малюнкі»? Таму што адразу патыхнула той свежасцю, першароднасцю і прыгажосцю народнага мастацтва, што так характэрны для твораў самабытных, не «зацяганых» на сцэне.

Чаму «Паўлінка» — «гумарэска, прадстаўленая лялькамі па матывах камедыі Я. Купалы», — глядзелася з такім задавальненнем, са шчырым смехам гледачоў, у той час, як таксама жартоўны абразок «Лапці-самаплясы» не выклікаў такой рэакцыі?

Таму што ў першым выпадку пастаноўшчыкам С. Дрэчыным былі выкарыстаны не толькі яго надзвычай багатая фантазія майстра-пастаноўшчыка, але і не меней багаты вопыт чалавека, які яшчэ ў саракавыя гады аб'ездзіў Беларусь у складзе групы фалькларыстаў, сабраў і запісаў незлічоныя гумарыстычныя, харэаграфічныя і акцёрскія знаходкі, падгледжаныя ў народзе.

Абразок жа «Лапці-самаплясы» пакідае ўражанне незавершанасці, халаднаватасці, супярэчнасці паміж харэаграфіяй танца і яго афармленнем.

Здаецца выпадковым у праграме і «Паланез», і «Юрачка». Відаць, таму, што ні ў тым, ні ў другім танцах не было асаблівых пошукаў і знаходак, акцёрскага майстэрства, якія вылучалі лепшыя нумары канцэрта. Артыстычнасць, уменне пераўвасобіцца — гэта, на маю думку, увогуле тое, чаго ў пэўнай ступені не хапае артыстам ансамбля.

Новая праграма падабаецца гледачам. Безумоўна, яе яшчэ трэба дапрацоўваць, дапаўняць — (пажадана — танцамі народаў СССР), але галоўнае — яна з'явілася той творчай заяўкай на беларускі танец, якой так чакалі ўсе аматары народнага мастацтва.

**В. ІПАТАВА.**



Пройдзе некалькі месяцаў і ў Беларускім Дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце пачнецца абарона дыпломаў. А зараз пяцікурснікі на пераддыпломнай практыцы.

На здымку, які зрабіў у мастацкай майстэрні Аршанскага ордэна Леніна ільнокамбіната М. Мінковіч, — будучыя мастачкі В. Грыдзіна і А. Якімук.

Тэма іх дыпломных праектаў — афармленне інтэр'ера. Зараз дзяўчаты распрацоўваюць эскізы тканіны для парцьер.

ВІДАЦЬ, не такая ўжо рэдкасць — рэдакцыйнае пісьмо, аўтар якога скардзіцца на сум. Што, маўляў, няма дзе разумна і весела правесці вольны час. Няма дзе патанцаваць, паспяваць, паглядзець фільм, паслухаць добрага лектара. Часцей за ўсё пісьмы гэтыя ад жыхароў сяла, дзе няма клубаў і дзе мясцовае кіраўніцтва, заклапочанае выключна праблемай хлеба, праблему ружаў цалкам аддало на водкуп сельскаму гарманісту. Пісьмо, пра якое я гавару, зусім іншага роду, і сум у аўтара таксама асобага парадку.

ПРАБЛЕМЫ, МЕРКАВАННІ, РОЗДУМ.

# ДА ПЫТАННЯ

Пошукі забаў для яго не абмежаваны цеснымі рамкамі вясковай ваколіцы, бо ён жыве ў цэнтры вялікага горада. Ды і не пра кіно, не пра лекцыі ў яго клопаты. Ён у тым сталым узросце, у той, як ён піша, «спелай стадыі розуму і эстэтычнай асновы», калі танцы і кіно не могуць вычарпаць усю суму душэўных і культурных патрэб чалавека. Ён і не скардзіцца на тое, што няма куды пайсці: «Недарэчна было б скардзіцца на культурную беспрытульнасць, жывучы ў цэнтры вялікага сучаснага горада». Яго сум — гэта сум даўно апісаны літаратурай — адзінота сярод людзей. Ён прагне грамадства, але на людзях яму нязменна сумна і адзінока. Пра любую кампанію, у якой яму даводзіцца бываць ён «ведае ўсё на сто гадоў наперад і хоць зараз можа сказаць, аб чым будуць гаварыць у гэтым доме і ў тым, і ў наступным. Адны і тыя ж барадатыя досціпы, адны і тыя ж спрэчкі, адны і тыя ж стэрэатыпныя забавы...»

Ёсць у гэтым пісьме і напамінак пра тую раскошу чалавечых сувязяў, пра якую калісьці гаварыў Сент-Экзюперы. Дазволю сабе пры гэтым упамянуць, што Экзюперы, чалавек незвычайнага розуму, абаяння, дзівоснай душэўнай шчодрасці і адвагі, меў нямала сяброў, шчасце спатканняў з якімі было несумненна ўзаемным. Вось пра такія менавіта сустрэчы, калі людзям ёсць што даць усёй горычы гэтага ўсвядомленага і па-філасофску асэнсаванага лёсу. Але па ўсіх прыкметах відаць, што наш «Чайльд-Гарольд» даўно выйшаў з таго наіўнага стану розуму і душы, калі «што яму кніга апошняя скажа, тое на душы яго зверху і ляжа». Яго пункт гледжання на сяброўства, дзе ён вось ужо многа гадоў не знаходзіць, да каго прыляпіцца душой, базіруецца не на кніжным, а на зусім самастойным жыццёвым вопыце. Дык, можа, у вопыце і ўся справа? Дык, можа, варта час ад часу не толькі сусветныя агляды чалавецтву наладжваць, а і сабе самому рабіць хоць бы невялікія маральныя пераўлікі?

Многае з чалавекам бывае на гэтым свеце. І сярод гэтага многага, на жаль, не ўсё светлае, не ўсё радаснае. Бывае, і сум да горла падступіць. Бывае, і адчай у сэрца штурхне, думкі адчайныя падкажа, руку непапраўна накіруе. Усё бывае. Але каб вось так, на доўгія гады суцэльныя поцемкі — гэта ўжо няшчасце, хвароба.

Перачытваючы гэта пісьмо, якое сведчыць аб пэўнай эрудыцыі аўтара, думаючы аб ім, я міжволі ўспамінала аднаго свайго знаёмага, скаргі якога на коснасць блізкіх людзей з цягам часу робяцца ўсё больш падобныя на скаргі аўтара пісьма, якое тут каменціруецца. Падобнымі іх робіць не толькі тое, што і мой знаёмы таксама ледзь не ўсё адзін аднаму, апрача партыі ў прэферанс або анекдота «часоў Ачакава і пакарэння Крыма», і сумуе наш карэспандэнт. Але сум не пакідае яго ўжо даўно: гадоў, бадай, з трыццаці, а зараз яму за сорак. Тэрмін дастатковы, каб узяць ды і задумацца, з-за чаго гэта так «збязлюдзеў» вакол цябе свет і чаму сум так неадчэпна прыкіпеў да цябе.

Каб быў наш карэспандэнт маладзейшы, лягчэй за ўсё дапусціць, што ён проста трапіў пад чары літаратуры, якая часам так цікава апісвае няўцешную адзіноту чалавека, што міжволі захочацца паспытаць

# СЁННЯ ЯШЧЭ ВУЧНІ


Э. АРАВА,

педагог беларускага харэаграфічнага вучылішча.


«КРУГЛЕЙ руку, Наташа! Трымай спінку, апусці лапаткі, Оля! Мякчэй пераходы. Рукі павінны дапяваць мелодыю, а ногі — працаваць хутка, дакладна, востра, як іголачкі ўколваеш. Не забывайся, Валя, танцаваць — адной тэхнікі мала. А цяпер усё, хопіць на сёння. Позна. Спаць!»

За акном кружаць сняжынкі, а юныя тэрпсіхоры развешваюць на крэслах пачкі, правяраюць, ці добра трымаюцца стужачкі чаравічкаў, прасуюць — рыхтуюцца да выступлення.

З 8 па 13 студзеня гэтага года ў Кіеве праходзіў Усесаюзны агляд харэаграфічных вучылішчаў. Гэта нібы пачатак аглядаў і конкурсаў харэаграфічнага мастацтва. Услед за ім у Маскве адбыўся Усесаюзны конкурс маладых балетмайстраў і артыстаў балета, на наступны год чакаецца Міжнародны конкурс артыстаў балета ў Маскве.

Усесаюзныя агляды харэаграфічных вучылішчаў адбываюцца раз у чатыры гады. Галоўная іх мэта — азнаёміцца з работай вучылішчаў, абмяняцца вопытам прафесійнага навучання будучых артыстаў балета. На агляд прыбыло больш 600 навучэнцаў 19 харэаграфічных вучылішчаў краіны. Паказаны былі ўсе класы—ад пачатковых да выпускных.

Пасля прагляду класаў і вытворчай практыкі праводзіліся абмеркаванні, на якіх аналізаваліся выступленні, ацэньвалася методыка выкладання і падрыхтоўка ўдзельнікаў, абмяркоўваліся рабочыя праблемы, новая вучэбная праграма, гаварылася аб стане сучаснага балета. Я не буду пісаць пра дынамічныя вострыя арабескі, пра бесперапынныя хуткія шэне, складаныя і выразныя падтрымкі — аб усім, чым багаты балет і чаму вучаць будучых артыстаў. Я хачу расказаць пра іх саміх—педагогах і вучнях Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча.

Да ўдзелу ў аглядзе былі падрыхтаваны выхаванцы педагогаў С. Бастун, В. Глінскага, М. Грышчанкі, Н. Красоўскага, Н. Малахавай, Н. Младзінскай, М. Пятровай, Р. Сінёвай, Э. Турусавай. У многім дапамаглі вучылішчу галоўны балетмайстар опернага тэатра заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, заслужаны артыст РСФСР Л. Андрэеў і заслужаная артыстка РСФСР М. Стукалкіна, якія ўзялі пад свой кантроль падрыхтоўку канцэртных нумароў да кіеўскага агляду. Урок класічнага танца дэманстравалі трэцякласніцы педагога Р. Сінёвай. І клас, і ўсе прадстаўленыя на агляд нумары атрымалі высокую ацэнку журы. Адзначана цікавае скарыстанне беларускага фальклорнага матэрыялу ў такіх нумарах, як «Беларуская полька» Пуксту (пастаноўка і работа Н. Малахавай), «Дударыкі» Глебава (пастаноўка і работа Е. Карпава). У «Мазурцы» Шапэна (пастаноўка,

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Ул. НЯДЗВЕДСКІ

## З БЕРАСЦЯНАГА АДНАТОМНІКА

**ЛЯ ПРЫЛАЎКА**

Чытачы мае пруцца сцяною,
Ля прылаўка кладуцца касцямі,
Каб набыць любою цаною
Аднатомнік мой берасцяны.

**РЫФМА**

Я з рыфмай сваёй запроста:
Без мяне яна — не дыхне.
Пасвішчу ў свісцёлку з бярosты—
Прыйдзе—добра, а не—дык не.

**ЧАРНАВІК**

Чаму пачарнеў чарнавік,
А мускулы ў пальцах тугія!
Таму, што пісаць я прывык
Творы толькі даўгія.

**РОДНАМУ ЧЫТАЧУ**

Я пішу па зіме, па вясне:
Чытача ашчаслівіць — шчасце.
А калі ён, няўдзячны, засне —
Пад шчаку будзе што пакласці.

**ДЫЯЛОГ З ШАРЫКАВАЙ РУЧКАЙ**

— Аўтаручка ў дванаццаць колераў,
Пра каго мы напішам заўтра!
Пра негабляванага столяра
Ці пра сухога пажарніка!
— Напішам пра ўсіх, мілы аўтар,
Калі будуць на месцы шарыкі!

**ПРОСЬБА ДА КРЫТЫКАЎ**

Вы аўтарам гладзьце загрыўкі,
Прывучайце сардэчных змалку
Не друкаваць сваіх твораў урыўкі,
А цягнуць у рэдакцыю цалкам.

**ПАДЗЯКА РЭЦЭНЗЕНТАМ**

Усяму, што для твора патрэбна,
Вучаць аўтараў рэцэнзенты.
Нават колькі зямлі і неба
Узяць у працэнтах.

**АД АЎТАРА**

На адкідным пішу стале,
Пішу з цямна і да відна я.
Так добра пішацца! Але —
Літаратура адкідная.

М. ДУБОЎСКІ

## «МІРАТВОРЦЫ»

— Пан капітан, што мы будзем рабіць ля берагоў старажытнай Элады?

— Тое, што і ля берагоў Японіі, В'етнама...

— Ваяваць?!

— Які ты, матрос, невук! Не ваяваць, а абараняць інтарэсы Штатаў, ажыццяўляць нашу «мірную палітыку».

— Авіяносцы, ракеты і мір?.. Не разумею, пан капітан!

— Чым больш у нас баз і ракет, матрос, тым смялей мы гаворым пра свае «мірныя намеры».

— Не разумею.

— Ах, матрос, як ты не можаш уцяміць? Мы многа трубім пра мір толькі таму, што тут жа робім усё, каб ён ніколі не наступіў. Дайшло?!.

— Дайшло, пан капітан, дайшло. Але ж...

— Што яшчэ, матрос?

— Я думаю, пан капітан, што мы ў сваёй «міратворнай палітыцы» — не піянеры. У нас ужо былі папярэднікі.

— Цікава ведаць, хто, матрос?

— Адольф Гітлер, японскія самураі...

— За развядзенне чырвонай прапаганды на баявым караблі — пяць сутак арышту!

Б. ГЕРСТАН

## РОЛЯ ЛІМа Ў СУСВЕТНАЙ КУЛЬТУРЫ

**АМАЛЬ ДЫСЕРТАЦЫЯ**

Сёй-той сцвярджае, што газеце «Літаратура і мастацтва» спаўняецца сорак год. Сёй-той нават збіраецца святкаваць юбілей. Але дазвольце з поўнай адказнасцю заявіць, што адзначаць саракагоддзе «ЛІМа» ўжо крыху позна. Гэта трэба было зрабіць год трыста—чатырыста назад, калі не раней. Лім існуе не дзесяткі, а сотні год!

Звернемся да фактаў. З чыім імем звязана першая ў Расіі пастаноўка балетнага спектакля? Вядома ж, з імем Мікалая Ліма! Гэты інжынер вёў тэхнічную частку «Балета пра Арфея і Эўрыдыку», пастаўленага 8 лютага 1673 года ў вёсцы Прэабражэнскае для цара Аляксея Міхайлавіча. Дакладна невядома, хто аўтар балета, хто выконваў галоўныя партыі. У народнай памяці засталося толькі кароткае слова—Лім.

Пяройдзем да іншых відаў мастацтва. Гісторыя жывапісу даводзіць, напрыклад, што Лім быў вядомы яшчэ ў XV стагоддзі. Нездарма ж французскія мастакі - мініяцюрысты браты Поль, Энекен і Эрман выбралі сабе прозвішча Лімбург, што ў перакладзе азначае прыкладна «Горад Ліма». Такі горад існаваў сапраўды (браты адтуль родам). Ён быў заснаваны яшчэ ў XI стагоддзі і быў сталіцай графства з той жа назвай. Але пра геаграфію ніжэй...

Спакон веку сябравала газета з літаратурай (як жа інакш?). На гэта ўказвае хоць бы прозвішча вядомага карэйскага сатырыка XVI стагоддзя—Лім Чжэ. Не выключана, што некалі ён рэдагаваў сваю карэйскую «Трасянку».

Як бачым, геаграфія распаўсюджання Ліма вельмі салідная: Расія, Карэя, Францыя. І гэта далёка не ўсё! Звычайна, каб давесці былую прысутнасць каго-небудзь ці чаго-небудзь на данай тэрыторыі, вучоныя звяртаюцца да геаграфічных назваў. Зробім гэта і мы. Вывады—надзвычай павучальныя. Лім ведаюць ва ўсім свеце! Рака Лім—у Югаславіі, рака Лімія—на Пірэнеях, горад Ліма—у Паўднёвай Амерыцы, фіёрд Лім спалучае Паўночнае мора з пралівам Катэгат. Правінцыі Лімбург ёсць і ў Бельгіі і ў Галандыі. І, нарэшце, рака Лімпапо ў Афрыцы! Дарэчы, на мове мясцовых жыхароў «папо» азначае «выпісвайце і чытайце!».

Гэта кароткае даследаванне, безумоўна, заслугоўвае працягу. І толькі ліміт часу і месца прымушае яго спыніць. Дарэчы, а ці не задумацца над паходжаннем слова «ліміт»?

Васіль КАРПЕЧАНКА

## Міні-байкі

**КАЗЁЛ**

Казёл на пенсію падаўся.
Сцвярджае — сэрца падвяло;
Але без справы не застаўся:
Бляе на ўсё сяло —
Было чаго ці не было.

**МУХА**

Слану-начальніку
на вуха
Гудзела Муха:
— Пара
з работы выгнаць
Камара:
Ён не крычыць табе «ура!»

**КАЛОДА**

Нібы Мядзведзіца ў бярлозе,
Ляжыць Калода на дарозе.
Ляжыць,
гніе ўжо
колькі год,
А людзі ходзяць
у абход.
Яе даўно спіхнулі б
у канаву,
Каб... распачаў хто
гэту справу.

Ян АСТРОЎСКІ



**ХІБА НЯПРАЎДА!**

Рэцэнзію забракавалі.

— Але чаму? — кіпеў аўтар. — Вы ж толькі першую фразу прачыталі. Урэшце-рэшт, яе можна паправіць, калі трэба...

— Не, — адказаў рэдактар, — яе немагчыма паправіць. Прачытайце яе яшчэ раз.

— Калі ласка: «Аўтар «Гамлета» — Вільям Шэкспір — шырока вядомы не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі». А што, хіба гэта няпраўда?




**ТАБЛІЧКА**

Калі знімалі з работы дырэктара кінастудыі, на дзвярах яго кабінета павесілі таблічку:

«Цішэй! Ідзе здымка!»

**БЕЗ ЛІТАСЦІ**

Рэцэнзент быў бязлітасны нават да сваіх сноў. Часам, прачнуўшыся, ён рэзка кідаў:

— Бяздарна! Ніякай думкі!



**АПЛАДЫСМЕНТЫ**

Паэт, які доўга чытаў благія вершы, сарваў бурныя апладысменты фразамі:

— І, нарэшце, апошні верш...



Пераклад з рускай мовы.

## МІМАХОДЗЬ

М. НОЖНІКАЎ

Пісьменнік так і кончыў пачаткоўцам.

Д. КУМСКІ

Гіпотэза: надыдзе час, калі будуць судзіць за забойства Часу.

Вечар сустрэчы з першым сустрэчным.

Рэклама: «Заключайце дагаворы страхавання жыцця ад маёмасці».

М. ВЯРШЫНІН

Было ў жыцці маім нямала прозы,
Каго і што любіць так буду я?
Паэзія — мая любоў і слёзы,
Адзіная каханая мая.

## ВЫСЛОЎІ

*З НЯМЕЦКАГА ГУМАРУ*

☐ *Вялікае шчасце для безгалосага спевака, калі ў яго няма і слыху.*

☐ *Шлягер дае магчымасць не гаварыць пошласці, а праспяваць іх.*

☐ *Бог стварыў жанчыну раней за мужчыну, каб даць яму час вымавіць хоць некалькі слоў.*

☐ *Колькі б часу мы зберaглі, каб маглі адначасова рабіць дзве справы: гаварыць і думаць!*

☐ *Есць такія кавалі свайго шчасця, для якіх гарачае жалеза трымаюць падручныя.*

☐ *Песіміст — гэта жанчына, якая, падлічыўшы перад зарплатай грошы, вырашае, што няма на што ісці ў цырульню. Аптыміст — яе муж, які думае, што яна сапраўды не пойдзе.*

☐ *Не заўсёды старайцеся смяяцца апошнім: можа здарыцца так, што будзе ўжо не да смеху.*

☐ *Для тых, хто не разумее афарызмаў, выдаюцца раманы-трылогіі.*

Пераклаў з нямецкай С. ЛЬВОЎ.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.

Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. Ц. БАЖКО (намеснік галоўнага рэдактара), Б. І. БУР'ЯН, А. І. БУТАКОЎ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, Ю. П. ГРЫГОР'ЕЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, І. М. ДАБРАЛЮБАЎ, В. У. ІВАШЫН, А. С. КАЗЛОЎСКІ, П. М. МАКАЛЬ, У. Л. МЕХАЎ (адказны сакратар), Р. К. САБАЛЕНКА, І. А. САНКОВА, М. Г. ТКАЧОЎ, Ю. М. ЧУРКО, Р. Р. ШЫРМА.



Індэкс 63856 АТ 01588